ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ

№106 (1919)
Субота, 12 чэрвеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +15...+17, дождж, уначы — +8...+10, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +20...+22, дождж, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +19...+21, дождж, уначы — +10...+12, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +12...+14, дождж, уначы — +8...+10, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +23...+25, уначы — +12...+14, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +14...+16, дождж, уначы — +9...+11, без ападкаў.

www.meteo.by



СОРАМ!

## Каго абараняюць?

Чулі? 75 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі дружна паставілі свае подпісы пад зваротам-патрабаваннем аб вызваленні экс-прэзідэнта Югаславіі Слабадана Мілошавіча. Ініцыятарам дакумента стаў намеснік старшыні пастаяннай парламенцкай камісіі па міжнародных справах і сувязях з СНД **Сяргей КАСЦЯН**. У інтэрв'ю **БелаПАН** ён нагадаў, што 14 мая аналагічны зварот было прапанавана прыняць усёй Палаце прадстаўнікоў, аднак для прыняцця станоўчага рашэння не хапіла ўсяго аднаго дэпутацкага голаса.

Як бачым, многіх нашых дэпутатаў моцна хвалюе лёс былога прэзідэнта Югаславіі Мілошавіча, які, па меркаванні еўрапейскіх праваахоўных органаў, павінен несці судовую адказнасць за свае ўчынкі.

Чаму ж беларускіх дэпутатаў не хвалюе лёс сваіх калег, якія ўжо шмат дзён працягваюць галадоўку? Яны пайшлі на мужны крок, каб палепшыць выбарчае заканадаўства і правесці чэсныя, справядлівыя выбары, вярнуць краіне павагу ў свеце. Мэты — высакародныя! Іх падтрымліваюць партыі і рухі, мільёны беларусаў. За ходам галадоўкі сочыць Еўропа. А дзе ж беларускія дэпутаты? Іх моцнага голасу чамусьці не чуваць.

Скажаце: пытанне, ініцыяванае генералам Фраловым і яго сябрамі, унесена ў павестку дня сесіі на 22 чэрвеня. А чаму так позна? Што, той жа спікер **Папоў** ці яго намеснік **Канаплёў** не ведаюць, што да 22 чэрвеня галадоўшчыкі могуць не дажыць? А чаму не ратуюць сваіх калег іншыя дэпутаты? Чаму маўчыць генерал **Чаргінец**? Ці ён ужо не генерал? Чаму маўчаць тыя ж **Хрол**, **Ананьеў**, **Касцян**, іншыя?

Не правяла грунтоўныя парламенцкія слуханні так званая палатка і па ходу расследавання аб зніклых палітычных апанентах рэжыму. Дзе Ганчар? Дзе Захаранка? Дзе Завадскі? Дзе Красоўскі?.. Гэта і многае іншае цікавіць Еўропу і ўвесь цывілізаваны свет. А дзе ж голас беларускіх дэпутатаў? Не выступаюць яны і ў абарону Марыніча... Іх, бачыце, хвалюе лёс дыктатара Мілошавіча, які развязаў канфлікт на Балканах, у ходзе якога праліта шмат крыві.

Хто ж у свеце будзе паважаць і прызнаваць такі парламент?

**Антон КОРЗУН.**

У СУСЕДЗЯЎ

## Прэтэндэнтаў — пяць

*У нядзелю, 13 чэрвеня, нашы суседзі — грамадзяне Літвы будуць выбіраць новага прэзідэнта краіны. Адначасова пройдуць яшчэ адны выбары — трэба вылучыць 13 прадстаўнікоў Літвы ў Еўрапейскі парламент.*

З пяці прэтэндэнтаў на пасаду кіраўніка літоўскай дзяржавы **Пятрас АЎШТРЭВІЧУС** — самы малады, яму 41 год. Да таго ж ён адзіны з кандыдатаў, хто не з'яўляецца партыйным прэтэндэнтам. Спадар Аўштрэвічус вядомы ў Літве як галоўны перамоўшчык з еўрапейскімі структурамі. Менавіта ён узначальваў ад літоўскага боку ўвесь працэс уступлення краіны ў Еўрасаюз.

*"Вельмі блізкае супрацоўніцтва з Еўропай пераканала мяне, што іншага шляху, акрамя прызнання такіх каштоўнасцей як дэмакратыя, правы чалавека, рынкавая эканоміка, недатыкальнасць прыватнай уласнасці і іншых, проста няма* — гаворыць Пятрас Аўштрэвічус. — **І я ўпэўнены, што будучае Беларусі будзе будавацца выключна на падмурку гэтых каштоўнасцей".**

У размове з беларускімі журналістамі кандыдат у прэзідэнты сказаў, што Літва не мае права пакідаць Беларусь у ізаляцыі. І таму яго краіна будзе рабіць усё, каб уключыць Беларусь у працэс дэмакратызацыі. Але і беларускія ўлады мусяць прыняць тыя нормы, па якіх жыве зараз агульная еўрапейская сям'я.

Сакратар Міністэрства замежных спраў Літвы Эвалдас Ігнатавічус у размове з прадстаўнікамі беларускіх СМІ выказаў меркаванне, згодна з якім, незалежна ад таго, хто з пяці кандыдатаў стане прэзідэнтам Літвы, палітыка краіны адносна Беларусі ні ў якім разе не зменіцца. Размова можа ісці толькі пра нейкія нюансы, дробныя дэталі, — лічыць высокапастаўлены літоўскі дыпламат. І яшчэ ён дадаў, што гэта палітыка не будзе супярэчыць агульнай палітыцы Еўрасаюза, у які Літва, нагадаю, уступіла сёлета — першага мая.

А вось як выглядае поўны спіс прэтэндэнтаў:

Валдас АДАМКУС, былы прэзідэнт Літвы;

Пятрас АЎШТРЭВІЧУС, намеснік канцлера ўрада;

Вілія БЛІНКАВІЧУТЭ, міністр працы і сацыяльнай абароны;

Казіміра ПРУНСКЕНЕ, парламентарый;

Чэславас ЮРШЭНАС, выконваючы абавязкі старшыні сейма.

**Уладзімір ГЛОД.**

SOS!

# «Дожить бы только!..»

*Десятый день голодовки*




Как уже не раз сообщала "Народная воля", **Валерий Фролов, Владимир Парфенович, Сергей Скребец, Марина Богданович, Геннадий Ананьев, Владимир Червоненко, Юрий Истомин, Владимир Радивончик, Виктор Ивашкевич** и **Владимир Цыбульский** голодают в служебной квартире Фролова.

Квартира небольшая: спальня, где стоят две кровати, и гостиная, объединенная с кухней.

**Владимир Парфенович** поздно вечером уезжает к себе домой.

*"Дети уехали, а жена боится ночевать одна: мало ли что,* — говорит Владимир Владимирович. — *Тем более я же знаю, что в квартире Фролова и без меня места очень мало. Зачем стеснять своих друзей?*

*Самое тяжелое в данной ситуации, что теперь нам необходимо ложиться отдыхать и днем. Без дневного сна уже очень сложно: все-таки десятый день голодаем. А сюда постоянно приходят люди, о чем-то спрашивают, выражают поддержку..."*

**Валерий Фролов** и **Сергей Скребец** спят на кроватях. **Марина Богданович** — на диванчике в гостиной, **Виктор Ивашкевич** — на балконе. Остальные — на полу.

*"Если ночью встаешь, приходится через всех переступать",* — говорит Валерий Дмитриевич.

До вчерашнего дня уборкой в доме занималась **Марина Богданович.** Мыла полы, чистила ванну, туалет.

*"Но сил уже не хватает,* — грустно улыбаясь, говорит она. — *Сейчас порядок в доме наводит **Наташа Волокида**, в субботу и воскресенье придет **Зинаида Гончар**. С завтрашнего дня кто-то будет отвечать на звонки и открывать дверь.*

*Носки мужчины стирают сами, а остальную одежду отдаем в стирку. Хочется сказать большое спасибо всем, кто нам помогает".*

Ванной голодающие пользуются по очереди.

*"Кто первый просыпается, тот первый и душ принимает,* — рассказывает Марина. — *Последним всегда в ванную идет Гена Ананьев. Фролова мы пропускаем без очереди.*

*Так получается, что спать укладываемся поздно, где-то около часа ночи: пока все посетители уйдут, пока почту просмотрим, разговоры закончим, а кто-то еще в это время в Интернете сидит. Но мне, например, уже не хочется сидеть за компьютером. Хочется полежать...*

*Просыпаемся рано: сегодня в 6.30 был эфир на Радио Свобода..."*

Марина говорит, что ей скидок и поблажек на то, что она женщина, никто не делает.

*"У нас все на равных,* — замечает она. — *Я 12 лет проработала в строительном тресте вместе с мужчинами, в ОГП я единственная женщина, возглавляющая областную организацию. Так что мне не сложно общаться с мужчинами. Сложно другое: днем иногда бывает невозможно отдохнуть. Те, кто присоединился к голодовке позже, сильной усталости пока не ощущают. А мы... Врач сказал, что надо менять режим дня. Теперь каждый день с 14 до 16 у нас будет тихий час".*

**Валерий Фролов** сохраняет оптимизм и говорит, что он — человек неприхотливый.

*"Меня жизнь не баловала: и в палатке приходилось жить, и в общежитии,* — говорит он. — *Понимаете, иногда двум людям в пятикомнатной квартире места бывает мало, потому что они ненавидят друг друга. А здесь собрались умные, приятные друг другу люди. У нас тут дух хороший!*

*С точки зрения быта — ковры на полу есть, в туалет мы особо не ходим. Ванна по графику... Конечно, непросто. Но мы знали, на что шли. Здесь собрались не трусы. И потом, не место украшает человека, а человек — место.*

*За это время я обзавелся тремя стульями и двумя креслами: коммунисты, кажется, принесли, чтобы нам было где сидеть. Каждый день кто-то приносит цветы, в ванной появилось много разных баночек шампуней, лосьонов, еще чего-то..."*

Несмотря на то что квартира, где проходит голодовка, служебная, Валерий Дмитриевич убежден, что она все равно останется за ним.

*"Я уверен, что изберусь на второй срок в Палату представителей,* — твердо говорит он. — *Думаю, к осени в нашей стране многое должно измениться. На мой взгляд, уже в августе тот, кто будет не с нами, окажется вообще вне политического поля. И я вижу, что некоторые политики уже понимают это. А вот у отдельных хитрых политиков будущего может и не быть... Я пришел к выводу, что политика очень четко показывает сущность каждого человека, выворачивает его наизнанку. До поры до времени можно осторожничать, скрывать свое истинное лицо, но время все поставит на свои места...*

*Ты спрашиваешь про бытовые условия... Сегодня многие люди в общежитиях живут гораздо хуже. И у них нет надежды даже на призрачные перспективы получить кредит, построить жилье... Но мы придем к власти — и все будет по-другому. А мы обязательно победим! И сделаем все, чтобы люди Беларуси были самыми счастливыми на свете. Дожить бы только!.."*

Доктор **Александр Волчанин**, который в свободное от работы время осматривает голодающих, говорит, что больше всего его беспокоит состояние **Марины Богданович** и **Валерия Фролова.**

***"У Марины аритмия, ишемическая болезнь сердца,*** — говорит Александр Васильевич. — ***Фролов перенес инфаркт. Голодовка и стрессы вызывают ухудшение их состояния...***

***На мой взгляд, ни в коем случае нельзя допустить летального исхода. Мне кажется, что власть должна пойти навстречу голодающим. Если кто-то из них умрет, Беларусь от этого ничего не выиграет. Наоборот...***

***Конечно, условия, в которых проходит голодовка, не очень хорошие. Но люди приняли решение. И они намерены идти до конца...***

***Как врач (а у меня стаж работы почти 20 лет) совершенно официально могу заявить, что эта голодовка для некоторых из них бесследно не пройдет...***

***Общество просто обязано что-то предпринять, чтобы спасти этих людей!"***

**Марина КОКТЫШ.**

**P.S. 15 июня в 18.00 состоится встреча депутатов Валерия Фролова, Владимира Парфеновича и Сергея Скребца с избирателями.**

**Адрес: Минск, переулок Казарменный, дом 4, квартира 73.**

ПРАТЭСТ

## Галадоўка перакінулася ў рэгіёны

На восьмы дзень галадоўкі дэпутатаў парламенцкай групы "Рэспубліка" Валерыя Фралова, Уладзіміра Парфяновіча і Сяргея Скрабца, а таксама актывістаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі і Партыі БНФ, якія іх падтрымліваюць, да акцыі далучыліся прадстаўнікі дэмакратычных партый і рухаў з іншых рэгіёнаў краіны.

Як заявіў старшыня Жодзінскай арганізацыі незарэгістраванага грамадскага аб'яднання "Маладая Грамада" **Дзмітрый ЧАРТКОЎ,** акрамя яго ў Жодзіне да акцыі вырашылі далучыцца актывіст АГП **Ірына ВАЛЧАНІНА,** а таксама два прадстаўнікі незарэгістраванага руху "Малады Фронт". *"Мы вырашылі праводзіць галадоўку ў сваім горадзе, а, улічваючы, што ў нас лепшая медыцынская база, чым у Барысаве, запросім да сябе і тых, хто адважыцца на акцыю ў гэтым горадзе",* — сказаў Д. Чарткоў.

Паводле яго слоў, пакуль тэрмін галадоўкі абмежаваны 21 чэрвеня. *"Але канчатковую дату завяршэння акцыі мы можам і перагледзець",* — зазначыў Д.Чарткоў.

Акрамя таго, да галадоўкі далучыліся Аляксандр Цярэнцьеў і Ігар Сухарукаў (Наваполацк). Усе новыя ўдзельнікі акцыі будуць праводзіць яе па месцы жыхарства.

У інтэрв'ю БелаПАН У.Парфяновіч зазначыў: *"Акцыя яшчэ раз пераканала нас у тым, што без змянення той сістэмы ўлады, якая зараз існуе, жыццё беларусаў застанецца такім, якім і было. Мы не зможам даць людзям годнае медыцынскае абслугоўванне і павысіць ім пенсіі".*

У.Парфяновіч мяркуе, што *"акцыя збліжае парламентарыяў з народам, які выбраў нас, і мы павінны непахісна адстойваць яго інтарэсы". "Мы не можам дапусціць, каб народ падманвалі на выбарах і адбіралі ў людзей іх думку з-за фальсіфікацыі вынікаў галасавання",* — падкрэсліў дэпутат.

Паводле яго слоў, прадстаўнікі афіцыйных структур Беларусі і Расіі пакуль ніяк адкрыта не рэагуюць на акцыю. *"Калі прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін падтрымлівае цяперашні беларускі рэжым, дык хто такі Пуцін і Дума? Магчыма, яна такая ж прызначаная, як і беларускі парламент?"*

**Марат ГАРАВЫ.**

## Міхаіл Марыніч застаецца пад вартай

Вядомы грамадскі і палітычны дзеяч Міхаіл Марыніч застаецца пад вартай. 11 чэрвеня суддзя Цэнтральнага суда горада Мінска Вера Грабоўская-Дайнэка адхіліла скаргу адваката палітыка Веры Страмкоўскай аб змяненні ў дачыненні да арыштаванага меры стрымання.

Нагадаем, што М.Марыніч быў затрыманы 26 красавіка. Яму прад'яўлена абвінавачанне ва ўчыненні злачынства, прадугледжанага часткай 2 артыкула 295 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь "Незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў". У выпадку прызнання палітыка вінаватым яму пагражае пазбаўленне волі на тэрмін да 6 гадоў.

У сваёй скарзе В.Страмкоўская ўказала на тое, што злачынства, у якім абвінавачваецца М.Марыніч, не адносіцца да разраду цяжкіх і мае пад сабой *"слабую доказальную базу"*. Акрамя таго, адзначаецца ў дакуменце, М.Марыніч *"мае шэраг заслуг перад дзяржавай і грамадствам"*, у тым ліку займаў адказныя пасады і абіраўся ў парламент. *"М.Марыніч мае сям'ю, пастаянна жыве ў Мінску і не мае намеру хавацца ад следства"*, - гаворыцца ў скарзе. Да таго ж, адзначае адвакат, за М.Марыніча паручыліся шэраг вядомых у Беларусі палітыкаў і грамадскіх дзеячаў, у тым ліку дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Зыходзячы з гэтага, В.Страмкоўская прапанавала суду змяніць меру стрымання ў дачыненні да М.Марыніча як *"не адпавядаючую патрабаванням закона і не абгрунтаваную"*.

Пракурор Анатоль Лісок у слове ў адказ быў сціслым, заявіўшы толькі, што прынятая ў дачыненні да М.Марыніча мера стрымання абгрунтавана і адпавядае заканадаўству. З гэтым згадзілася і суддзя.

Адвакат М.Марыніча з рашэннем суда катэгарычна не згодная і мае намер абскардзіць яго ў Мінскім гарадскім судзе.

*"На сёння ёсць парушэнні крымінальна-працэсуальнага заканадаўства, якія заключаюцца ў тым, што суддзя не пацікавілася, ці давяраю я суду і пракурору. Гэта ўжо дае магчымасць абскардзіць рашэнне суда па працэсуальных падставах"*, - сказала В.Страмкоўская журналістам пасля абвяшчэння рашэння.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**









# Вытрымаем!

Цяпер мне зразумела, чаму такі шалёны ўціск ідзе на "Народную волю".

"Народная воля" — сіла.

І сіла яе — у падтрымцы людзей.

На Кастрычніцкую плошчу, што ў цэнтры сталіцы, яны ў чацвер прыйшлі не пад прымусам. Па волі сэрца і душы. Прыйшлі, каб выказаць шчырую падтрымку сваёй любімай газеце.

"Ланцужок неабыякавых чытачоў" расцягнуўся ў даўжыню ўсёй плошчы. А людзі — маладога, сярэдняга і сталага ўзросту — усё падыходзілі і падыходзілі. "Ланцужок" ужо спусціўся да скрыжавання праспекта Ф.Скарыны з вуліцай Я.Купалы. І, хто ведае, можа, ён дасягнуў бы плошчы Перамогі, але тут з'явіліся хлопцы ў пагонах, якія рашуча заявілі: "Далей нельга!"

Так і хацелася сказаць служакам: нельга адно рабіць — вяртаць законы сярэднявечча ў сённяшнюю Беларусь. Ці ж гэта нармальна, што ўжо каторы год фактычна немагчыма зарэгістраваць газету ці часопіс дэмакратычнага накірунку. А як душаць тыя выданні, якія раней атрымалі права на жыццё! Вось і "Народнай волі" ў чарговы раз даводзіцца весці кругавую абарону. Вытрымалі тады, калі з-за абструкцыі улад тыраж множыўся па-за межамі краіны, у суседняй Літве. Вытрымаем і зараз, калі "па заказе" на шыю рэдакцыі накінута эканамічная пятля.

Ледзь не кожны другі, хто прыйшоў на Кастрычніцкую плошчу і трымаў у руках "Народную волю", казаў мне: "Кіньце кліч — і мы ахвяруем сваёй газеце па тысячы-другой". Дзякуй Вам, добрыя людзі! "Народная воля" сапраўды мае патрэбу ў падтрымцы, але нельга дапусціць таго, каб ахвяраванні трапілі ў рукі тых, хто ўжо сваімі брыдкімі дзеяннямі абрабаваў народ. Сёння той жа Я.Рыбакоў, які патрабуе спагнаць з рэдакцыі сотні мільёнаў рублёў, утрымліваецца ў следчым ізалятары і, калі верыць ведамству В.Шэймана, утрымліваецца пад вартай за сур'ёзнае злачынства. Пра які гонар, пра якую годнасць, пра якую дзелавую рэпутацыю гэтага чалавека можна весці размову? На гэтае пытанне было б разумна ў межах закона адказаць тым судовым і пракурорскім інстанцыям, да якіх мы звярнуліся і маем намер яшчэ звярнуцца.

...Меркавалася, што "Ланцужок неабыякавых чытачоў" прадоўжыцца хвілін трыццаць-сорак. Але людзі не спяшаліся развітвацца. Я ішоў уздоўж "ланцужка" і дзякаваў кожнаму прыхільніку "Народнай волі". Моцны поціск вашых рук, шаноўныя сябры, я адчуваю і цяпер. І гэта зарука таго, што мы заўжды будзем разам.

Падпіска на "Народную волю" працягваецца. Хочацца верыць, што ў другім паўгоддзі нас будзе яшчэ больш.

Вы — з "Народнай воляй", "Народная воля" — з Вамі!

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**заснавальнік**
**і галоўны рэдактар**
**газеты "Народная воля".**

**На здымках:** *злева — сталы падпісчык "Народной волі": здзіўлены мноствам міліцыянтаў, якія выстраіліся на супрацьлеглым баку праспекта; у цэнтры — нават гэты хлопчык ведае, што нельга ўціскаць "Народную волю"; справа — галоўны рэдактар газеты вітае прыхільнікаў свабоднага слова.*

**Фота**
**photo.bymedia.net**

# Брат



Аднойчы вечарам у мяне зазваніў тэлефон і ў слухаўцы пачуўся незнаёмы голас: "Я — Лявон Кіта, брат Барыса Кіта", пра якога вы пісалі. Мне хацелася б сустрэцца і пагутарыць..."

Перад гэтым "Народная воля" надрукавала мой матэрыял "Дранікі для Барыса Кіта" — пра нашага земляка, які па-за межамі Радзімы стаў сусветнавядомым вучоным. Таленавіты фізік і матэматык, вынаходнік паліва для касмічных ракет Барыс Уладзіміравіч Кіт — асоба легендарная: доктар філасофіі, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, ганаровы сябра Брытанскага і Нямецкага міжпланетных таварыстваў, заслужаны прафесар Вашынгтонскага Мерылендскага універсітэта, залаты медаліст Нямецкага ганаровага таварыства імя Германа Обэрта і г.д. Такім землякам ганарыцца б любая нацыя!

Але ёсць у Барыса Уладзіміравіча яшчэ адзін тытул: ганаровы грамадзянін горада Навагарадка. Прысвоены ён яму за дзесяцігоддзе асветніцкай дзейнасці ў Беларусі. І тое, што ён зрабіў для сваіх землякоў за гэты перыяд, наўрад ці здолеў бы зрабіць нават самы энергічны чалавек за ўсё сваё жыццё.

Нагадваю: пасля заканчэння Віленскага універсітэта Барыс Кіт быў дырэктарам Віленскай і Навагрудскай гімназій з 1933 па 1939 год. І за сваю прыхільнасць да беларушчыны, за сваё імкненне вучыць беларусаў па-беларуску не раз сядзеў у турме. Пасля ўсталявання ў Заходняй Беларусі савецкай улады ён з 1939 па 1941 год стварыў сотні пачатковых і сярэдніх школ. А гэта з'яўлялася вельмі нялёгкай справай: трэба было знайсці настаўнікаў, забяспечыць іх заробкам, адшукаць спадручныя памяшканні, здабыць грошы для школьных прылад і г.д. Відавочцы сцвярджаюць, што Кіт у той час не спаў суткамі.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Барыс Уладзіміравіч, цвёрда ўпэўнены ў перамозе Савецкай Арміі і ў тым, што адраджаць краіну павінны людзі адукаваныя, без дазволу мясцовых акупацыйных уладаў стварыў настаўніцкія семінарыі ў Маладзечне, потым — у Паставах і працаваў у іх дырэктарам. Улады закрылі гэтыя ўстановы, але ўпарты Кіт арганізаваў гандлёвы інстытут у Маладзечне. За непадпарадкаванне ўладам ён трапіў у турму гестапа, дзе на працягу месяца чакаў расстрэлу. І толькі цуд дапамог сябрам і былым вучням выратаваць яго.

У 1944 годзе, калі пачалося вызваленне Беларусі ад гітлераўцаў, Барыс Уладзіміравіч разам з жонкай і сына пакінуў Радзіму. Аб тым, што рашэнне гэта было правільным, сведчыць не толькі яго бліскучая кар'ера, на Захадзе, але і той факт, што многія вучні і калегі Кіта пасля вайны трапілі ў ГУЛАГ.

Васіль Быкаў прысвяціў Кіту сваю кнігу "У тумане", на тытульным лісце якой напісаў: **"Найпершаму Беларусу з беларусаў у свеце, шаноўнаму спадару Барысу Кіту. З нізкім паклонам — аўтар".**

Дарэчы, сапраўднае прозвішча Барыса Уладзіміравіча — Кіта, што значыць "вязанка сена", але падчас вандровак літара "а" ў дакументах згубілася і ён стаў Кітам. Цяпер 94-гадовы беларус, грамадзянін ЗША, знакаміты вучоны Барыс Кіт жыве ў Германіі, у Франкфурце-на-Майне, і вельмі цікавіцца ўсім, што адбываецца на Бацькаўшчыне, дзе ў 44-м годзе ён пакінуў бацькоў, брата і сястру. Лёс іх склаўся вельмі няпроста, хаця наўрад ці ім было б лягчэй, калі б Кіт застаўся ў Беларусі і апынуўся ў савецкім канцлагеры.

## Цень

З Лявонам Уладзіміравічам Кітой мы сустрэліся толькі праз некалькі месяцаў. Ён аказаўся высокім, прыгожым, вельмі энергічным чалавекам і выглядаў не на свае 79, а максімум на 65 гадоў.

— Пасля надрукавання вашага матэрыяла, — сказаў ён, — тэлефануе мая сястра, што жыве ў Карэлічах, і плача: "Хто гэта напісаў пра Барыса? Мне цяпер праходу не даюць! У нас жа ўсе партыйныя... Іду з кіёчкам у краму, мяне сустракаюць, гавораць: "А што твой брат карысназрабіў для калгаса, для партыі, для раёна?" Хадзіла на могілкі, усё кругом цэлае, а на крыжах, што стаяць на бацькоўскіх магілах, медальёны пабітыя..." І праўда, прыехаў я ў Карэлічы, іду па вуліцы, вітаюся са знаёмымі, а многія вочы адводзяць і не адказваюць. Наведалі мы з сястрой могілкі, вяртаюся ў Мінск, а на душы — горкі асадак: аказваецца, малая радзіма не маці для мяне, а мачаха, і людзі, што побач жылі, зусім чужыя...

**— Але ж ваш брат, працуючы на касмічную праграму НАСА, прынёс вялікую карысць і ўсяму чалавецтву! А яшчэ раней у поўным сэнсе гэтага слова ахвяраваў жыццём і свабодай дзеля таго, каб яго землякі сталі адукаванымі, хіба ж гэтага мала?** — дзівілася я.

— Цяпер, відаць, іншае цэніцца, — уздыхнуў мой субяседнік.

**— Магчыма, людзі думаюць, што вам пашчасціла ў матэрыяльным плане, бо ў вас за мяжой знакаміты і добра забяспечаны брат?**

— Справа ў тым, што Барыс быў заўсёды фанатам, для яго галоўнай была толькі асвета. Ён часта паўтараў: "Вучыць людзей — гэта самае галоўнае!" Добра яшчэ, што яго за кратамі палякі ці немцы не даканалі! Пашчасціла, што былі такія сябры, як Рыгор Шырма!

**— А яго непрыемнасці з акупацыйнымі ўладамі ў час вайны на вас неяк адбіліся?**

— Барыс з сям'ёй жыў асобна, мы з бацькамі — асобна, і я яго на працягу ўсёй вайны не бачыў.

**— Можа, ён не хацеў падвяргаць вас небяспецы?**

— Можа і так. Але нас усё роўна спалілі: за адну ноч згарэлі 17 вёсак! Мы ледзь уцяклі праз хлеў, і я ў 18 год за адну ноч стаў сівым. Бацькі з той пары жылі ў зямлянцы, якую абклалі звонку. Так і памерлі ў ёй. Пасля вайны розныя чуткі хадзілі: аднаму нібы сваякі напісалі з Канады, другому — з Аргенціны... Я ездзіў да маці Барысавай жонкі, якая жыла ў вёсцы Лебедзева. Яна была ўжо старэнькая і нічога не ведала пра дачку. Але за намі ўвесь час нібы цень стаяў. Бацька таксама гэта адчуваў.

**— У чым гэта выяўлялася?**

— Мая сястра з адзнакай закончыла ВНУ ў Ленінградзе, стала фармацэўтам, а ёй, нібы лабарантцы, далі ў Карэлічах самую нізкую зарплату. І знаёмы бацькаў кадэбіст, з якім яны рыбу лавілі, прагаварыўся: "Сваякі тых, хто знаходзіцца за мяжой, узяты намі пад строгі кантроль!" Ды і ў мяне кар'ерны рост быў абмежаваны.

**— А хто вы па прафесіі?**

— У 44-м годзе мяне забралі ў армію, у спецыяльныя вайскі: мы займаліся ліквідацыяй бандаў. Дэмабілізаваўся аж у 51-м. Трэба было набываць спецыяльнасць, і мне прапанавалі пайсці брыгадзірам у калгас. Але дзядзька параіў іншае: "Прыехалі з Урала, набіраюць туды дэмабілізаваных салдат. Навучаць нейкай прафесіі і будзеш працаваць". А я перад вайной закончыў сем класаў польскай школы, добра ведаў фізіку, матэматыку, свабодна валодаў польскай і нямецкай мовамі. Барыс падрыхтаваў мяне да паступлення ў гімназію, дзе я паспеў закончыць толькі адзін клас. Гімназіі ў той час выпускалі людзей усебакова адукаваных, такую падрыхтоўку не кожная сённяшняя ВНУ дае. Але прыйшлі бальшавікі і заявілі, што пачынаць нам трэба з пятага класа. Я закончыў на Урале вячэрнюю школу, потым — Чэлябінскі металургічны інстытут, працаваў і ўвогуле пражыў там дванаццаць гадоў. У пачатку 60-х вярнуўся ў Беларусь. У Мінску вялося будаўніцтва, і я аказаўся вельмі патрэбным: займаўся мантажом і пускам кацельных на ТЭЦ-2, ТЭЦ-3, на іншых прадпрыемствах.

**— Ці было гэта вашым прызваннем?**

— Цяжка сказаць. Працаваў я сумленна і быў добрым спецыялістам. Пускалі, напрыклад, сілікатны камбінат саюзнага значэння ў Любані і Колакалаў, які пры Машэраве быў сакратаром па ЦК прамысловасці, пытаецца: "Ці можна запусціць кацельную, калі на двары мінус 25 градусаў?". А для мяне гэта было, што цукерку з'есці: на Урале і пры сарака градусах марозу запускаў! "Можна!" — кажу. А мой начальнік шэпча: "У турму захацелася? Хто вашага сына гадаваць будзе?" Але міністр будаўніцтва Кічкайла назначыў мяне адказным, і камбінат здалі ў эксплуатацыю датэрмінова. Кічкайла сказаў: "Вам вопыту не займаць, а нам ёсць чаму ў вас пачучыцца"!. Але калі хацелі мяне галоўным інжынерам завода назначыць, то кандыдатуру маю не зацвердзілі і ў КДБ перыядычна выклікалі.

**— Аб чым гаварылі?**

— Ні аб чым канкрэтна, але я ведаў, што права на памылку ў мяне няма. Таму, калі працаваў інспектарам "Катланагляду", то спаць не мог, мне дагэтуль кашмары сняцца. Фактычна я быў тэхнічным урачом-дыягностам: правяраў стан кацельных і дазваляў іх эксплуатацыю. Аднойчы цэлую ноч пасля такой праверкі мне нешта не давала спакою. Раніцай памчаўся зноў на аб'ект, выклікаў радыёграфаў, прасвяцілі, а знутры — дзірка, нібы язва ў страўніку: усё магло выбухнуць, а я бы гадоў на дваццаць сеў за краты. Гэта мяне Бог ратаваў!

Паехаць адпачыць куды-небудзь я не мог: пуцёвак не давалі. Не адмаўлялі, але і не давалі. Аднойчы толькі нехта ў апошні момант адмовіўся ад пуцёўкі і я паехаў у Пухавічы, дзе пазнаёміўся са сваёй Галінай Сцяпанаўнай. Я позна ажаніўся: увесь час баяўся, што на мяне нейкая бяда зваліцца і зачэпіць блізкіх. Лепей ужо аднаму пакутаваць! А зараз у мяне ўжо двое ўнукаў гадуюцца.

**Акардэн і дзве скрыпкі**

**— Як доўга вы не бачылі брата?**

— Пяцьдзесят гадоў, з 41-га, — сказаў Кіта. — У 94-м годзе ў Беларусі адбывалася еўразійская канферэнцыя і ён нечакана з'явіўся ў нас разам з Дашуком, Іпатавай і яшчэ нейкімі людзьмі. Убачыўшы мяне, усклікнуў: "Бацька!" А я сапраўды — вылітый бацька. Аказваецца, калі адчынялася беларуская амбасада ў ЗША, Барыс быў на ўрачыстасці і папрасіў нашага міністра замежных спраў Пятра Краўчанку адшукаць сваякоў, калі хто-небудзь у жывых застаўся пасля вайны. І Краўчанка напісаў яму, што сястра, Ірына Уладзіміраўна, жыве ў Карэлічах, а я — у Мінску. Барыс быў вельмі рады, сказаў мне: "А я так баяўся, што вас на Калыму саслалі!". І запытаўся: "Ты яшчэ музыкай жывеш?" Кажу: "Я толькі ёю і жыву!" І ён даслаў мне з Германіі шыкоўны канцэртны акардэон вішнёвага колеру.

**— Вы вучыліся музыцы?**

— Музыка з дзяцінства была маім жыццём і маім ахоўнікам. Побач з намі ў Агародніках, — цяпер гэта вуліца Кастрычніцкая ў Карэлічах, — жылі Дыдышкі. Іх сын Леанід Мікалаевіч Дыдышка вучыўся разам з Барысам, потым закончыў Варшаўскую кансерваторыю з залатым медалём, быў знаёмы з Шырмам, Цітовічам, яго запрашалі ў Маскву, Мінск, але ён застаўся на радзіме выкладаць музыку дзецям, стаў дырэктарам музычнай школы. Гэта ён потым стварыў хор "Свіцязянка", а мяне вучыў калісьці па класу скрыпкі. Да сённяшняга дня Дыдышка — мой кумір, мой маэстра! Ён заўсёды паўтараў: "Апошнюю карову прадай, але абавязкова вучыся!" Пражыў Леанід Мікалаевіч больш за 90 гадоў, пад старасць пераехаў у Мінск да дачкі. Я прыйшоў яго наведаць, а ён пытаецца: "Помніш, як біў я цябе па пальцах?" Кажу: "Помню". "А як павінна быць скрыпка настроена?" Кажу: "Мі-ля-рэ-соль! Гэта — на ўсё жыццё, як гузікі зашпільваць". Ён узяў скрыпку: "А вось такую мелодыю помніш?" Кажу: "Гэта Вяняўскі, мы яе з вамі гралі!" Дыдышка гаворыць: "Запішы ўсе мелодыі, якія помніш, асабліва тыя, што гралі да вайны на вяселлях музыкі-"слыхавікі", можа, каму-небудзь спатрэбіцца". І я выканаў яго запавет, хаця і з цяжкасцю: жонка мая хворая, а спецыяльнага пакойчыка для работы няма. Сёння гэтыя мелодыі ніхто ўжо і не памятае, і ў музычнай бібліятэцы іх не знойдзеш, яны памерлі, а ў мяне ёсць, праўда, у адным экземпляры. І пасля маёй смерці застануцца, але ці спатрэбяцца каму-небудзь? Можа, іх мышы з'ядуць...

**— А што гэта за музыкі-"слыхавікі"?**

— Гэта унікальныя скрыпачы-віртуозы, якія гралі не па нотах, а "на слых". Калі Дыдышка пачаў мяне вучыць, у нас дома былі дзве скрыпкі, зробленыя французскімі майстрамі ў 1850 годзе. Кошт кожнай скрыпкі — карова! Адну бацьку пан падарыў, адкуль другая ўзялася, не памятаю. У вайну абедзве згарэлі разам з хатай. А да вайны бацька і я гралі на вяселлях. Аркестр у нас быў шыкоўны: гармонік, чатыры скрыпкі, цымбалы, кларнет, іншыя інструменты. Ігралі бальныя танцы, кадрылі, полькі, кракавяк, падэкатр, падэспань...

**— У вас на дзіва таленавіты род. Я ведаю, што Барыс Уладзіміравіч у юнацтве збіраўся стаць мастаком, але перамагла матэматыка, а бацька, прыехаўшы з беларускай вёскі ў незнаёмы Пецярбург, даволі хутка стаў начальнікам Упраўлення міжнародных сувязяў Міністэрства сувязі Расійскай Імперыі, а гэта вельмі высокая пасада!**

— Так, бацька быў вельмі таленавітым чалавекам і "слыхавіком" унікальным. Ён мог працаваць на ўсіх тэлеграфных апаратах таго часу і на слых вызначаў: гэта — "морзе", гэта — "уінстон" і гэтак далей. Калі Юдзеніч ішоў з Фінляндыі на Пецярбург, перабліытаць што-небудзь было немагчыма, за гэта адразу расстрэльвалі. Пасля рэвалюцыі ў Расіі пачаўся голад, разруха, і бацька вярнуўся на Радзіму. А тут жылі добра толькі тыя, у каго была зямля. У суседа-ветэрынара, напрыклад, было 60 га зямлі, свіран, 12 коней, а бабам бедным, якія да цямна гнулі спіны, убіраючы яго палеглы ячмень, плаціў грашы. Калі да ўлады прыйшоў Пілсудскі, беларусам жыць стала зусім цяжка, і кожны шукаў, дзе зарабіць гэтую няшчасную капейку. Маці мыла бялізну багатым яўрэям, бацька працаваў па найме. Да Каляд сяктак бедавалі, а пасля Каляд зусім галадалі, бульёну не было з чаго зварыць. Потым дзед уладкаваў бацьку працаваць у маёнтак да графа Храптовіча. Граф быў чалавекам разумным, адукаваным і справядлівым, тым, хто працаваў сумленна, рэгулярна плаціў грашыма і збожжам. Але ўсё роўна мы жылі вельмі бедна.

У 39-м годзе прыйшлі бальшавікі і адразу сталі ствараць калгасы, а тых, у каго была сякая-такая маёмасць, раскулачылі, вывезлі і знішчылі. У іх лік трапілі спачатку і тыя, хто працаваў на пана. Толькі пазней разабраліся, што гэта батракі, сказалі: "Памылачка выйшла!"

**— Вы ніколі не хацелі стаць прафесійным музыкантам?**

— Хацеў, і бацька да вайны гэтага хацеў. І, напэўна, я мог стаць прафесарам і выкладаць музыку не горш за многіх, але пасля вайны адбылася пераацэнка каштоўнасцей: трэба было зарабляць на лусту хлеба і, здавалася, што лепш набыць прафесію больш практычную.

**— Вы не шкадуеце аб гэтым?**

— На працягу ўсяго жыцця, калі выпадаў вольны час і мае калегі "закладвалі за каўнер" альбо ішлі на танцы, я садзіўся, пачынаў іграць і пападаў у іншы свет. Я граў Шуберта, Брамса, Штрауса, Монці, Кальмана, агінаў з імі зямлю і вяртаўся дадому. А потым апускаў стомленыя рукі, выходзіў на вуліцу, глядзеў на неба і думаў: "Няхай у мяне пустыя кішэні, але я самы багаты і шчаслівы чалавек у свеце!"

## «Шэпт свіцязянскіх хваляў»

**— Ваш брат у цяжкія для Беларусі часы ствараў школы ў правінцыі, а зараз, як ні парадаксальна, колькасць іх скарачаецца, бо дзяцей нараджаецца ўсё менш...**

— Зачыняюцца не толькі агульнаадукацыйныя, але і музычныя школы, — сумна заўважыў Лявон Уладзіміравіч. — Пры Хрушчове наш сакратар райкама даў каманду: "Касцёл — пад сховішча для тары, царкву — пад сховішча для фуража, татарскую мячэць — пад канюшню, а яўрэйскую сінагогу знесці і пабудаваць на яе месцы Дом культуры!" Пабудавалі. Як ні прыеду ў Карэлічы, на дзвярах амбарны замок вісіць. Ад музычнай школы амаль нічога не засталося, — дырэктар ды некалькі выкладчыкаў. Усе рэшткі культуры знаходзяцца ў Мінску, а далей, у "глыбінцы", амаль усё ліквідавана, мала што захаваць змаглі. Пасля графа Храптовіча, напрыклад, засталася унікальная бібліятэка. Сказалі: "Гэта — не "наша" літаратура!" І палавіну спалілі, а палавіну пацукі з'елі. Я быў у маёнтку: пабудова стаіць, але ўсё навокал заплявана. Нікому нічога не патрэбна!

Калі святкавалі 950-ты юбілей Навагрудка, то запрасілі з Польшчы ансамбль "Мазоўша". Прыехалі маладыя дзяўчаткі ў прыгожых касцюмах, далі канцэрт, ім заплацілі і яны паехалі. Дык няўжо мы, беларусы, не можам стварыць у сябе ансамблі такога ж узроўню? Бяда ў тым, што мы ўсё робім на словах, а не на справе! Вось прыклад: дырэктар Мінскага Дома афіцэраў увесь час гаварыў, што да свята Перамогі патрэбны новыя песні. Франтавы паэт Мікалай Іванавіч Палякоў напісаў словы, я паклаў іх на музыку, прынеслі гатовую песню, а ён кажа: "Няма ў мяне часу выканаўцу шукаць!"

**— Вы пішаце песні?**

— Так, кладу на музыку вершы беларускіх і рускіх паэтаў, у мяне ўжо многа песень напісана. І дваццаць вальсаў. Адзін — шыкоўны, у чатырох частках, называецца "Шэпт свіцязянскіх хваляў". У ім і плёскат вады, і прыгажосць вялікіх блакітных кветак Ротмана... Ведаеце такія? Яны растуць толькі ў Свіцязі і ў нейкім швейцарскім горным возеры, цвітуць пад вадой, пякуцца, як крапіва, а ў промнях сонца здаюцца жывымі істотамі. Я сам бачыў гэты цуд! Калі-небудзь знойдуць мой вальс і скажуць: "Аказваецца, ёсць вальс і пра нашу Свіцязь!"

**— Вы паказвалі свае творы спецыялістам?**

— Я сустракаўся з Ігарам Міхайлавічам Лучанком. Ён прагледзеў іх, сказаў: "Гэта сапраўднае багацце, шукайце спонсара на выданне зборніка і на запіс!" А дзе ўзяць гэтага спонсара, калі ў нас фінансуецца толькі "папса"? А вось у Аўстрыі ёсць аркестр акардэаністаў, кіруе ім прафесар-італьянец і аркестр гэты з поспехам гастралюе па свеце. Гэта не дзіўна, бо нават адзін акардэон — гэта цэлы аркестр. У мяне, калі іграю на акардэоне, басы пяюць, мелодыю вядуць, уяўляеце, якая гармонія?

Нас з сябрам часта запрашаюць на святы ў Цэнтры інвалідаў, у Цэнтр ветэранаў, сярод якіх у асноўным жанчыны-пенсіянеркі. І мы думаем, як сагрэць іх сэрцы, даставіць радасць, зрабіць нешта такое, каб яны забыліся на ўсе крыўды і пачалі ўсміхацца. І я чытаю вершы пра каханне, пра мацярынскую любоў, пра жанчыну-мадону, а потым іграю на акардэоне. І яны ідуць дадому радасныя, а мы адчуваем сябе патрэбнымі...

...Мы доўга гутарылі з Лявонам Уладзіміравічам, а калі развіталіся, ён папрасіў: "Толькі не друкуйце нічога, бо не ведаю, як паставяцца да гэтага ў Карэлічах, а мне маю бедную хворую сястру вельмі шкада..." Але я паспрабавала пераканаць яго, бо падумала: а, можа, крыўда жанчыны выклікана выпадковай (ненаўмыснай) нетактоўнасцю з боку кагосьці з суседзяў? Хацелася б у гэта верыць.

**Ганна АРЦЮШКЕВІЧ.**

## Крадуць ядахімікаты

*У ноч на 9 чэрвеня ў Баранавіцкім раёне выкрадзена ядахімікатаў амаль на тры мільёны рублёў. Крадзеж адбыўся ў сельскагаспадарчым вытворчым кааператыве "Тугановічы", паведаміў БелаПАН супрацоўнік прэс-службы УУС аблвыканкама* **Генадзь БАРАБАНАЎ.**

Невядомыя праніклі на склад, перапілаваўшы навясны замок, і знеслі каля 170 літраў сродкаў аховы раслін і прэпаратаў для барацьбы са шкоднікамі. Памяшканне, якое пераабсталявана пад склад, не было аснашчана сігналізацыяй, не асвятлялася і не ахоўвалася.

За апошні месяц гэта ўжо другі буйны крадзеж ядахімікатаў на тэрыторыі вобласці. Не так даўно ў СПК "Хмелева" Жабінкаўскага раёна невядомыя выкралі ядахімікатаў больш чым на 6 мільёнаў рублёў.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Выяўлены новы эпізод хабарніцтва былым дэканам факультэта біялогіі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта

*10 чэрвеня інфармацыйнае агенцтва БелаПАН паведаміла са старонак "Народнай волі" пра эпізод хабарніцтва ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф.Скарыны.*

Інфармацыйнае агенцтва вырашыла ўнесці ўдакладненне ў ранейшую публікацыю. Цяпер падкрэсліваецца, што выяўлены новы эпізод хабарніцтва **былым** дэканам факультэта біялогіі Гомельскага дзяржуніверсітэта.

Супрацоўнікам абласнога ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю ўдалося ўстанавіць, што ў ліпені 2002 года **былы** дэкан факультэта біялогіі ГДУ атрымаў у горадзе Добруш хабар ад мясцовага жыхара ў памеры 1 тысяча долараў ЗША за садзейнічанне ў паступленні яго сына на біялагічны факультэт. Крымінальную справу аб атрыманні хабару дэканам факультэта біялогіі ГДУ ўзбудзілі ў ліпені 2003 года, тады ж ён быў арыштаваны і знаходзіцца пад следствам.

Крымінальная справа ўзбуджана ў дачыненні да дзевяці выкладчыкаў гэтай гомельскай ВНУ; у асобную справавытворчасць выдзелена справа па дэкану юрыдычнага факультэта. У маі матэрыялы аб хабарніцтве пракуратура перадала на разгляд у суд.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

**ЧУЛІ?**

## Адмянілі прыгавор суда ў дачыненні да 13 супрацоўнікаў мытні, вынесены ў красавіку

*Калегія па крымінальных справах Брэсцкага абласнога суда, разгледзеўшы касацыйны пратэст пракуратуры вобласці, адмяніла прыгавор суда ў дачыненні да 13 супрацоўнікаў мытні.*

Яны абвінавачваліся ў тым, што ў карысных мэтах не праводзілі належны мытны кантроль фірменнага цягніка "Паланэз", у выніку чаго з расійскіх прадпрымальнікаў, якія везлі з-за мяжы вялікія партыі тавараў, мытныя пошліны збіраліся не ў поўным аб'ёме.

Паводле заключэння эканамічнай экспертызы Дзяржаўнага мытнага камітэта, такім чынам за кароткі час дзяржаве быў нанесены ўрон у памеры больш чым 2 мільёны долараў ЗША. Аднак па прыгаворы суда Ленінскага раёна Брэста, абвешчанаму 15 красавіка гэтага года, шэраг злачынстваў, у якіх абвінавачваліся мытнікі, не былі прызнаны бясспрэчнымі і доказальнымі. Прама ў зале суда мытнікі былі вызвалены з-пад варты.

На гэтым тыдні адбылося пасяджэнне калегіі па крымінальных справах, на якім старшы пракурор аддзела па нагляду за законнасцю судовых пастаноў па справах абласной пракуратуры **Генадзь КАЛУЖА** настойваў на адмене прысуду. Ён сцвярджаў, што суд неабгрунтавана перакваліфікаваў дзеянні абвінавачваемых і замест артыкула 424 Крымінальнага кодэкса (злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі) прымяніў да іх артыкул 425, частка 1 (бяздзеянне службовай асобы).

У выніку судовая калегія па крымінальных справах Брэсцкага абласнога суда адмяніла прысуд і ўсе прыватныя пастановы суда Ленінскага раёна, накіраваўшы справу на новы судовы разгляд у суд Маскоўскага раёна Брэста. Мера стрымання ў дачыненні да абвінавачваемых прыведзена ў першапачатковы стан: хтосьці ўзяты пад варту, хтосьці — пад хатні арышт, з некаторых узята падпіска аб нявыездзе.

Такім чынам, "справа мытнікаў", якая, здавалася б, фінішыравала ў красавіку, зноў вярнулася на старт.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

**ДЕЛОВОЙ МИР**

## Центры поддержки предпринимательства

*На очередном заседании комиссии по поддержке предпринимательства при департаменте по предпринимательству Министерства экономики Республики Беларусь под председательством заместителя министра экономики А.Н.Тура определены базовые центры поддержки предпринимательства в областях республики и г. Минске. Это:*

*— ОДО "Брестский областной центр содействия малому предпринимательству" (г.Брест, ул. Интернациональная, 17);*

*— УП "Витебский Центр маркетинга" (г.Витебск, ул. Правды, 22);*

*— ЗАО "Гомельский бизнес-инновационный центр" (г.Гомель, ул. Федюнинского, 17, 2-2);*

*— ООО "Апсель" (г.Лида, ул. Советская, 43);*

*— ООО "Борисовский центр поддержки предпринимательства" (г.Борисов, пр.Революции, 33);*

*— УП "НПО "Центр" (г.Минск, ул. Шаранговича, 19-27);*

*— ЗАО "Центр поддержки предпринимательства "БЕЛПРЕД" (г.Минск, ул. Городской Вал, 8-4,5);*

*— УПК "Могилевский городской центр развития малого предпринимательства" (г.Могилев, ул. Лепешинского, 12).*

Такая информация размещена на сайте Министерства экономики страны. Здесь же уточняется: цель создания базовых центров поддержки предпринимательства — комплексное обслуживание субъектов малого предпринимательства, в том числе:

*— оказание содействия в организации и совершенствовании навыков ведения бизнеса;*

*— осуществление консалтинговых услуг;*

*— маркетинговые исследования;*

*— содействие в подготовке кадров для субъектов малого предпринимательства;*

*— обеспечение оперативного предоставления информации, необходимой для осуществления предпринимательской деятельности.*

Принято также решение о присвоении статуса центра поддержки предпринимательства УП "Технопарк БНТУ *"Метолит" (г. Минск) и КУКСП "Колизей" (г. Пинск).*

В целях оперативного обеспечения субъектов малого предпринимательства информацией о действующих нормативных правовых актах, уменьшения количества нарушений действующего законодательства со стороны субъектов малого предпринимательства принято решение о передаче во временное безвозмездное пользование субъектам инфрастуктуры поддержки малого предпринимательства в г.Могилеве и в г.Минске электронных справочных систем.

**Подготовил к печати Евгений ТАВГЕНЬ.**

## Удакладненне

Першы сказ у артыкуле "Як у Казлоўшчыне лечацца людзі..." (11.06.2004 г.) трэба чытаць: "Бальніца ў вёсцы Казлоўшчына Дзятлаўскага раёна".

**ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ**

# Сезон рака

В связи с наступлением лета мы должны хотя бы на минуту задуматься над негативным аспектом солнца. Будучи источником всей жизни на Земле, солнце одновременно является фонтаном канцерогенов окружающей среды. В особенности, теперь мы знаем, что ультрафиолетовая солнечная радиация является основной причиной большинства кожных раковых образований.

Рак кожи, которому на протяжении долгого времени здравоохранение не придавало большого значения, теперь стал эпидемическим. Приблизительно 90000 новых случаев злокачественной меланомы и более миллиона случаев немеланомного рака кожи будет выявлено в Соединенных Штатах в этом году. Меланома станет причиной 8000 смертельных исходов, а немеланомный рак кожи убьет еще 2000 человек. Меланома в настоящее время является самым распространенным видом раковых заболеваний у женщин в возрасте 24—35 лет. Теперь это обычное явление, если у двадцатилетних женщин развивается базально-клеточный или плоскоклеточный рак, который когда-то был болезнью пятидесяти- и шестидесятилетних мужчин.

В то время, как сильно возрасла распространенность рака кожи, повысилось и наше понимание его причин. На протяжении более пятидесяти лет ультрафиолетовая солнечная радиация была первой подозреваемой причиной рака кожи. Эпидемиологические данные из Австралии, исследования, проводимые на животных с искусственными источниками ультрафиолетового излучения, и развитие рака кожи у отдельных людей с генетической неспособностью исправлять повреждение ДНК, вызванное ультрафиолетовой радиацией, обеспечили косвенные доказательства связи. Недавняя работа установила причинную связь между солнцем и раком кожи на молекулярном и клеточном уровне.

Ультрафиолетовая радиация вызывает определенные и уникальные мутации в подавляющем опухоль гене, который производит белок под названием p53. Этот белок участвует в процессе, который называется апоптозом, при котором поврежденные клетки совершают "самоубийство" для того, чтобы их дефектные гены не передавались дочерним клеткам. (Возможно, это первый признак того, что самопожертвование является важной чертой человека!) Поврежденная солнцем, но не совсем способная на самоубийство видоизмененная клетка, продолжает разрастаться за счет нормальных соседних клеток, результатом чего является предраковый рост, который может перерасти в развившийся плоскоклеточный рак.

Но как мы должны сообщить людям о раке кожи и способах его предупреждения? Если наша основная идея — "никогда не находись на солнце", то мы обречены на неудачу. Создание культуры обитателей пещер не является способом уменьшить распространенность рака кожи.

Более того, просвещая общественность, мы противостоим огромным силам: знаменитости, такие же бронзовые, как скульптуры в Лувре, абсолютное удовольствие находиться на солнце и восприятие возрастающей пользы здоровью от ультрафиолетовой радиации. Отсутствие бледных актеров, актрис, руководителей корпораций и политических деятелей подтверждает, что загар отождествляется скорее со здоровьем, богатством и властью, чем с тяжелым трудом рабочего класса, как считалось в прошлом.

Индустрия искусственного загара обещает, что ультрафиолетовая радиация от их машин не так вредна по сравнению с естественным солнечным светом. Но в обоих случаях загар — это реакция тела на повреждение. Микроскопические гранулы пигмента, произведенные пигментными клетками кожи, скапливаются вокруг ядра клетки для того, чтобы защитить ДНК от мародерских лучей и предотвратить мутацию. Не имеет значения, излучает ли ультрафиолетовую радиацию лампа или звезда.

Независимо от того, естественная она или искусственная, ультрафиолетовая радиация является причиной преждевременного старения кожи. Неизбежная ирония заключается в том, что подростки и молодые женщины стараются загореть для того, чтобы выглядеть привлекательнее, но меняют одно или два мгновения солнечного великолепия на целую жизнь с преждевременными складками, морщинами и изможденной кожей. Поскольку молодые люди считают себя бессмертными, даже обращений к их пожизненному тщеславию, не говоря уже о предостережениях о раке, не достаточно для того, чтобы удержать их от кабин солярия.

Но трудности просвещения общественности о причинах рака кожи не преуменьшают наше обязательство попытаться это сделать. Существует достаточно других болезней, о причинах которых мы вообще не имеем понятия. Что касается рака кожи, мы очень хорошо знаем, как предотвратить его — а предупреждение всегда легче, чем лечение.

Начать нужно с того, чтобы обеспечить доступ общественности к верной информации. В то время, как псевдонаука и индустрия антистарения являются важным источником потенциальной дезинформации. Интернет часто тоже предоставляет разрушительную ложную информацию. Поразительно, что у Интернета тот же уровень доверия с пациентом, что и у телевидения с потребителем: "Я прочитал это в Интернете, так что это правда".

В то же время салоны солярия необходимо регламентировать. В то время, как у парикмахеров, таксистов, владельцев баров и врачей часто есть лицензии, на управление салоном солярия редко требуются разрешения. Ни одна из других вышеупомянутых профессий, однако, сознательно не подвергает своих клиентов подтвержденному действию канцерогена окружающей среды. До тех пор, пока индустрия загара не захочет навести у себя порядок, пациенты должны избегать ламп и пользоваться аэрозолью: создайте искусственный загар.

Эта предотвратимая болезнь должна стать центром внимания всесторонней образовательной кампании, подобной кампаниям против курения, которые в настоящее время уже пожинают плоды во многих странах. Кроме того, научное исследование этого наиболее доступного из человеческих органов будет продолжать искать инновационные способы лечения и методы предупреждения, которые вполне могут применяться и к другим видам раковых образований.

**Дэвид Д.ЛЕФФЕЛ.**

### Досье

*Доктор Дэвид Д. Леффелл — профессор дерматологии и хирургии в Йельской медицинской школе, руководитель отдела дерматологической хирургии и кожной онкологии в Йельской больнице Нью-Хэвен, и старший помощник декана по клиническим вопросам в Йельской медицинской школе. Он является автором книги "Здоровая кожа: четкое руководство по полному уходу за кожей в течение всей жизни".*

